


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе.*
*Выходзіць з 1997 года.*

№ 31 (60). Слонім. 30 ліпеня — 5 жніўня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны


# ІДЗЕ ЖНІВО

**Сёлета ў раёне калгаснікам патрэбна ўбраць збожжавыя на плошчы 27726 гектараў.**
**Жніво пачалі ўсе 19 калгасаў і саўгасаў Слонімшчыны.**
**Па стану на 28 ліпеня ўбрана каласавых на плошчы 4060 гектараў, што складае 16,6%. Сярэдняя ураджайнасць па раёне складае 29,3 цэнтнера з гектара.**

**Самы цяжкі колас пакуль у калгасе "1 Мая". Сярэдняя ўраджайнасць там складае 33,8 ц/га. У гэтай гаспадарцы самыя высокія і тэмпы ўборкі. Механізатары скасілі і абмалацілі збожжавыя на 1045 гектарах, што складае 39% ад усёй плошчы.**



## НАВІНЫ

### Адбазарылі...

**Учора, 29 ліпеня, адбылося ўрачыстае закрыццё "Славянскага базару ў Віцебску".**

Адным ён спадабаўся, другім — не, а трэцім ён проста ўжо надакучыў. Але ведаеце вы, шаноўныя чытачы, што гэты базар абыйшоўся Беларусі ў 400 тысяч даляраў. Гэта сума ўдвая перавышае аб'ём сродкаў, запланаваных на год на ўмацаванне базы культуры ўсёй Віцебскай вобласці, і ў шэсць разоў перавышае аб'ём датацый на рэстаўрацыю помнікаў архітэктуры гэтага рэгіёна.

А калі браць пад увагу, што зарплата работнікаў культуры сёння вагаецца ад 20 да 40 даляраў, то 400 тысяч даляраў — гэта фантастычная сума.

Больш таго, за апошнія некалькі год сотні клубных устаноў і бібліятэк у Беларусі ўвогуле закрыты. Сто аб'ектаў культуры ў краіне знаходзяцца ў аварыйным стане, 785 клубаў і дамоў культуры, а таксама 325 бібліятэк патрабуюць капітальнага рамонту. Мінулай зімою 659 асяродкаў культуры ў Беларусі не ацяпляліся. А ў нас — базар, 400 тысяч даляраў ужо прабазарылі...

### Слониму далеко до Волковыска?

**Выясняется, что планом 1998 года в Слониме предусмотрено построить за счет всех источников финансирования 13,3 тыс. квадратных метров жилья. А в Волковыске в 2,7 раза больше — 36,4 тыс. квадратных метров. Об этом сообщила волковысская газета "Наш час".**

Источниками финансирования строительства в Волковыске являются бюджетные средства, а также деньги предприятий, организаций и индивидуальных застройщиков (вместе с кредитами, субсидиями и ссудами).

Интересно, так почему же в Слониме, который по населению больше Волковыска, меньше строят?

**Сергей ЧИГРИН**

### Замест НТВ будзем глядзець "Культуру"

**Як ужо пісала "ГС", на тэрыторыі Слонімшчыны планавалася трансляцыя праграмы расійскага НТВ.**

Аднак нядаўна высветлілася, што гэты папулярны тэлеканал мы глядзець не будзем. Па невядомых пакуль прычынах, ён будзе заменены на іншы расійскі канал — "Культура". Цяпер ідзе мантаж адпаведнай апаратуры і праз месяц-два ў нас з'явіцца новы, чацвёрты тэлеканал.

**Сяргей ЁРШ**

### Новые визы в Польшу

**1 августа у граждан Беларуси появляется новая возможность попасть в Польшу.**

С этого дня в консульских учреждениях посольства Польши в Минске, Бресте и Гродно можно будет приобрести многократные и однократные визы на пребывание в стране.

Стоимость многократной визы составит 14 долларов США, однократной — 5 долларов. Срок, в течение которого оформляется виза, семь рабочих дней. Экспресс-визу, как многократную, так и однократную, можно получить в течение трех дней, но и стоить она будет дороже на 24 доллара.

### Норма — это еще не качество

**В начале августа будут введены новые гигиенические нормативы на питьевую воду.**

В документе, который разрабатывали президиум Республиканского санитарно-эпидемиологического совета и Министерство жилищно-коммунального хозяйства будут зафиксированы новые, менее либеральные нормы качества. Ужесточение требований к качеству питьевой воды обусловлено общей экологической обстановкой в стране.

**БелаПАН**

## ЗДАРЭННІ

### Смерць пад катком

**На мінулым тыдні на дарозе Слонім-Косава загінуў 27-гадовы рабочы дарожнага ўпраўлення № 191 Генадзь Каралевіч.**

У гэты дзень ён мотакатком утрамбоўваў шчэбень на праезджай частцы дарогі.

Падчас абедзенага перапынку, агрэгат, які стаяў на абочыне, нечакана пакаціўся. Каб спыніць яго, Генадзь паспрабаваў на хаду заскочыць у кабіну машыны, але не ўтрымаўся і трапіў пад шматтонны барабан мотакатка.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

### Пайшоў купацца і не вярнуўся

**28 ліпеня вадалазы выратавальнай станцыі паднялі з дна возера, што на вуліцы Баграціёна, 20-гадовага тапельца Мікалая Яроцкага.**

Начальнік выратавальнай станцыі Васіль Кулак сказаў карэспандэнту "ГС", што паведамленне пра трагічны выпадак на вадзе яны атрымалі вечарам 27 ліпеня.

Тры вадалазы працавалі дацямна, аднак пошук вынікаў не даў. І толькі раніцай на наступны дзень, у аўторак, на глыбіні 4 метраў удалося знайсці цела юнака, які нядаўна вярнуўся з вайсковай службы.

**М.З.**

### Да Баранавіч не дабегла

**Незвычайны крос назіралі слонімцы ў мінулую нядзелю на гарадскім рынку.**

Прыватныя прадпрымальнікі гуртом лавілі жанчыну з Баранавіч, якая спрабавала ўкрасці туфлі ў адной з гандлёвых палатак. Перамаглі слонімцы. Яны ўсё ж затрымалі зладзейку і перадалі яе ў рукі міліцыі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Задымеў, але не згарэў

**У мінулую суботу, рухаючыся па Брэсцкай вуліцы, раптам задымеў аўтобус ЛАЗ, які належыць гарадскому дарожнаму ўчастку.**

Высветлілася, што ў маторным адсеку загарэлася электраправодка. Дапамога пажарных, якія прыбылі на месца здарэння, не спатрэбілася. Аўтобус, на шчасце, не загарэўся. Пакрыты сажай, у панядзелак ён яшчэ стаяў на абочыне.

**В.Ч.**

### Агонь адступіў

**На мінулым тыдні ў раёне здарыліся два пажары.**

У вёсцы Дзераўная згарэла страха хлява, які належыць Ганне Грыгорчык. Пажарныя прыехалі своечасова, бо агонь ужо перакінуўся на страху хаты.

А ў Высацку пяцігадовы хлопчык, які прыехаў у госці да сваёй бабулі Валянціны Ярмаловіч, падчас забавы падпаліў салому, што ляжала каля хлява. Дзякуючы пажарным, хлеў удалося выратаваць.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

Цены (в тыс.руб.)

| | 24.06 1998 | 28.07 1998 |
|---|---|---|
| бананы | 75 | 60-65 |
| помидоры | 65 | 30-48 |
| чеснок | 60 | 55 |
| картофель мол. | 40 | 10 |
| молоко (1л.) | 7 | 7 |
| яйца (1дес.) | 30 | 32 |
| капуста | 20 | 15 |
| черника (1ст.) | 7 | 7 |
| арбузы | 80 | 25 |
| лисички (ведро) | — | 340 |
| огурцы | 30-35 | 17-20 |
| редис (1пуч.) | 10 | 10 |
| морковь (1пуч.) | 15 | 10-15 |
| лук зел. | 10 | 8-10 |
| лук репчатый | — | 15 |

НАША ІНТЭРВ'Ю

# НА ЧТО СПОСОБЕН ФЕРМЕР

**Сейчас на территории Слонимского района действуют семь фермерских хозяйств, в то время как в соседнем Зельвенском районе их насчитывается более 20.**

В каких условиях сегодня приходится работать нашим фермерам, каких результатов они добиваются? Об этом рассказывает руководитель фермерского хозяйства "Верес" Михаил Макей.

***— Михаил Францевич, расскажите об истории становления вашего фермерского хозяйства?***

— "Верес" образован в 1991 году. В пользовании имеем 50 гектаров земли. В основном, занимаемся растениеводством и овощеводством. В этом году засеяли 20 га ячменя, посадили 10 га картофеля и около 15 га отвели под капусту, свеклу и морковь. На остальной площади строим производственные помещения. У нас сейчас на откорме находится 1000 индюков, 1000 гусей и 500 утят. На сегодняшний день в хозяйстве работает 30 человек, хотя стержнем его являются 3 человека, члены моей семьи.

***— Известно, что без техники трудно управится с таким хозяйством...***

— Согласен. У нас есть полный комплект техники и необходимое прицепное оборудование. В том числе два трактора МТЗ, комбайн "Дон", а также автомобили.

***— В последнее время часто спорят об эффективности земледелия на колхозных и фермерских землях. Что лично вы можете по этому поводу сказать?***

— В прошлом году с каждого гектара мы получили по 46 ц. пшеницы, 31 ц. озимой ржи, 41 ц. тритикала, 38 ц. ячменя, 245 ц. картофеля. Неплохих результатов надеемся добиться и в этом году.

***— Судя по неплохим урожаям, ваше хозяйство достаточно крепкое. Значит и люди получают хорошую зарплату?***

— Средняя зарплата рабочих составляет около 3,5 млн. руб. Могли бы платить и больше, но часть прибыли вынуждены отдавать на развитие хозяйства. Строим по голландской технологии свинарник на 400 голов, коровник на 50 голов. Кроме того, по возможности, занимаемся благотворительностью. Например, СШ №10 помогли закупить музыкальные инструменты, а детскому саду на Энке – мебель. Помогаем продуктами Жировицкому монастырю, выделили кирпич на строительство церкви.

***— Интересно, сколько человек у вас справляются с работами на 50 га земли?***

— Обычно 2-3 человека, не более. Остальные заняты на строительстве и на птицеферме. Известно, что труд на земле тяжелый. Тем не менее, частная собственность на землю позволяет ее использовать более эффективно. В первую очередь за счет чувства хозяина на земле, экономного отношения в ведении хозяйства. Фермер должен быть и трактористом, и бухгалтером, и менеджером одновременно. На сегодняшний день по нашему законодательству можно взять до 100 га земли в пожизненное владение с правом передачи ее наследникам (но без права продажи). Арендовать земли можно без ограничения в размерах. Государство может оказать помощь в обустройстве хозяйства, а в некоторых случаях безвозмездно. Другое дело, что власти обычно выделяют земли далеко не самые лучшие и взять финансовую поддержку тоже сложно. Вообще, проблем хватает. Хотя замечу, что районные власти нормально относятся к тому фермеру, если видят, что он хорошо работает на земле.

***— Михаил Францевич, как вы считаете, способен ли фермер на Беларуси прокормить горожан и составить достойную конкуренцию колхозам и совхозам?***

— Колхозам и совхозам - однозначно да. А вот что касается немцев, голландцев, то до них нам еще далеко. Но трудолюбивому и толковому человеку это вполне по силам. Хотя психологически наши люди к этому не готовы, по той причине, что у нас уничтожили чувство собственника и хозяина на земле.

**Беседовал Александр ВИЛЬКОВСКИЙ**

ГОРАД *нашы праблемы*

# ЦІ ЗАСТАНЕЦЦА НА БРЭСЦКАЙ ВУЛІЦЫ КНІГАРНЯ?

Як стала вядома рэдакцыі "ГС", на Брэсцкай вуліцы мяркуюць закрыць кніжны магазін №2, які належыць райспажыўсаюзу.

Знікненне кніжнай крамы ў горадзе – справа даволі трывожная і сумная. Калі б гэта быў магазін па продажу іншых тавараў, можна было б прамаўчаць. Але размова ідзе менавіта пра кнігі. Кажуць, што калі закрываюцца тэатры, бібліятэкі, музеі і кніжныя крамы – ідзе знішчэнне дзяржавы. Той, хто бываў у іншых гарадах Еўропы, заўважыў, што там амаль на кожнай вуліцы ёсць кнігарні. Для Слоніма тры кніжных магазіна і кіёск – гэта няшмат, але змірыцца можна. Галоўнае, каб хоць іх захаваць. Вядома, кнігі – гэта не гарэлка, ад рэалізацыі якой можна атрымаць вялікі прыбытак. Але, тым не менш, кнігарня на Брэсцкай вуліцы неабходна. У апошні час там з'явілася больш беларускамоўных кніг па гісторыі і мастацтву, ёсць шмат выданняў для школьнікаў і настаўнікаў, паштовак і плакатаў. Ведаюць сваю справу і ветліва адносяцца да пакупнікоў Тацццяна Бутэнка і Лідзія Горбань, якія шмат гадоў там працуюць. За чэрвень яны прадалі кніг на суму 70 мільёнаў рублёў.

Таваравед па кнізе райспажыўсаюза Галіна Іванова шчыра прызналася, што яе хвалюе лёс гэтага магазіна і хацелася б, каб ён існаваў, але ад яе гэта мала залежыць. Старшыня райспажыўсаюза Сяргей Рагозік сказаў, што ніхто пакуль гэтай гандлёвай кропкі ліквідаваць не збіраецца, хаця яна вельмі стратная.

– Наконт яе будзем размаўляць з кіраўнікамі гаррайвыканкамаў. Але гэта справа не сённяшняга дня, пытанне яшчэ будзе вырашацца, – заявіў спадар Рагозік.

Хочацца спадзявацца, што кніжны магазін на Брэсцкай вуліцы ўсё ж будзе існаваць. Галоўнае, каб там было шмат кніг, якія б хацелі купіць слонімцы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ФОТАРЭПАРТАЖ *Мікалая Супруна*

# НАШ СУЧАСНІК







*Працяг на 3 стр.*



НАВІНЫ

## Сустрэча праз 50 гадоў

**Праз 50 гадоў, сустрэліся выпускнікі СШ №1 1948 года.**

Яна праходзіла вельмі сціпла і амаль непрыкметна. З 22 аднакласнікаў на сустрэчу прыехалі толькі дзевяць. Сем чалавек ужо памерлі, а астатнія, па розных прычынах, проста не змаглі.

Цікава тое, што ўсе гэтыя выпускнікі ў свой час атрымалі вышэйшыя адукацыі. Сярод іх – доктар філалагічных навук Алег Лойка, кандыдат філалагічных навук Сцяпан Міско, былыя настаўнікі Алена Маскалік, Неаніла Крэчык, Ефрасіння Марчык, Тамара Герасімовіч, Фарыда Міскевіч, інжынер Яўген Емельяннчык і былы вайсковец Віктар Скробат. Аднакласнікі наведалі родную школу, успомнілі сваіх настаўнікаў, расказвалі пра сябе. Была, вядома, чарка і шкварка. Галоўнае, што такая сустрэча адбылася, адбылася праз паўстагоддзе. Нам застаецца толькі за іх парадавацца і шчыра пазайздросціць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Да юбілею Адама Міцкевіча

**26 чэрвеня ў РДК прайшла вечарына, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, якое будзе адзначацца ў лістападзе гэтага года.**

Напачатку лекцыю аб жыцці і творчасці вялікага паэта-рамантыка прачытаў намеснік старшыні слонімскай суполкі Таварыства беларускай мовы Мікалай Ракевіч. Потым гучалі лірычныя песні ў выкананні Наталлі Раманюк і Барыса Кучынскага, а таксама вершы слонімскіх паэтаў Міколы Кановіча і Сяргея Герасімчыка. На жаль, на вечарыну прыйшлі ўсяго 20 чалавек разам з арганізатарамі.

Магчыма, аўтар вядомых у свеце паэм "Гражына", "Дзяды" і "Пан Тадэвуш" пакрыўдзіўся б за такую ўвагу да сябе слонімцаў.

**Б.П.**

## У Слоніме нараджаюцца двайняты

**У ліпені ў Слоніме нарадзілася дзве пары двайнят.**

Па словах загадчыцы гарадскога аддзела ЗАГСа Марыі Пятрашка, такога выпадку даўно ўжо не было. Сын Аляксей і дачка Марыя нарадзіліся ў сям'і акцёраў Слонімскага драмтэатра Аляксандра і Людмілы Шалахонавых (цяпер у іх сям'і ўжо трое дзетак). А вось у Якава і Ларысы Тузіных ужо чацвёра дзетак. Нядаўна іх сям'я папоўнілася двайнятамі Паўлам і Святланай.

**Сяргей ЁРШ**


Газета Слонімская
*Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.*
*Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК*

**Адрас рэдакцыі:**
*231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.*
**E-MAIL:gs@irex.minsk.by**

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

*Падпісана да друку 29 ліпеня 1998 г.*
*Час падпісання 8:00.*
*Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.*

*Падпісны індэкс 64042.*
*Наклад 6.700 экз.*
*Заказ №2151*



ПРАШУ СЛОВА

# У ПОШУКАХ КАМПРАМАТУ

Папера ўсё сцерпіць. Гэты выраз успамінаю амаль кожны раз, калі чытаю ў "Газеце Слонімскай" артыкулы некаторых аўтараў. Вось перад вачыма нумар ад 22 траўня 1998 года. Міжволі звяртаю ўвагу на знаёмы фотаздымак. На ім камандзір партызанскага атрада "Савецкая Беларусь" Мікалай Уладзіміравіч Бабкоў са сваім баявым таварышам Французавым. Звяртаю ўвагу на подпіс. Гэтым разам паспрабаваў пяро ў гэтай тэматыцы Ігар Падгарадзецкі. Няхай даруе мне Ігар Іванавіч, але калі я прачытала ягонае інтэрв'ю з былымі партызанамі "Савецкай Беларусі", мне зрабілася сорамна менавіта за аўтара, якога яго калегі па пяру называюць слонімскім гісторыкам. У яго артыкуле не знайшла ніводнай сур'ёзнай думкі, нічога гістарычнага, бо, лічу, што там былі выкладзены звычайныя агідныя плёткі. Ды і былыя партызаны ў непрыглядным святле выстаўляюць свой асабісты ўдзел у партызанскай барацьбе, кідаюць пляму на сваіх былых таварышаў, у тым ліку і на загінуўшых. Не ведаю, які такі "странный" план распрацаваў Бабкоў пад час аперацыі ў вёсцы Сасноўка, але як ён мог выканаць пастаўленую задачу з гэткімі баязліўцамі? "Наша засада, – перадае аўтар словы былога партызана Мікалая Ф. з Жыровіч, – которая должна была дорогу перекрыть, разбежалась". Другі партызан, Іван Б. з вёскі Русакова абураецца, што прыйшлося выйсці ў "чыстае поле", калі бралі гарнізон у Трыбушках. Ну дык што ж тут зробіш, калі трэба было прайсці менавіта праз чыстае поле, каб дайсці да гарнізона? Выйсці з лесу было неабходна, бо партызаны ж бралі гарнізон, а не наадварот. Шкада, вядома, загінуўшых, але ішла вайна і гінулі людзі. Не ведаю, чым вызначаліся былыя партызаны, што абліваюць брудам свайго камандзіра? Мне здаецца, што яны проста злуюць, што не пілі і не елі "катлеты і кураціну" разам з Бабковым і з другімі камандзірамі, не цешыліся з жанчынамі. Дарэчы, я не ведаю такога закону, які забараняў бы мужчынам, у тым ліку і камандзірам, любіць жанчын, няхай сабе і ў вайну. Любіліся ўсе, каму любілася. Жанчыны ва ўсе часы натхнялі мужчын на подзвігі. Ігару Падгарадзецкаму гэта добра вядома. Чаму ж тады Бабкоў мусіў быць еўнухам? Складваецца ўражанне, што камандзір атрада, ды і ўвесь штаб, цешыліся з жанчынамі выключна ў траскучыя трыццаціградусныя маразы. Не зусім ясна таксама, як гэта былы партызан Фёдар С. са Слоніма "без інструментаў і люстэркаў", як ён кажа, выявіў усё ж "девственницу", якую Бабкоў увечары павёў у лес? І чаму Фёдар С. вырашыў, што яна была "ахвярай"? А можа яна была самая шчаслівая? Бабкоў жа быў хлопец хоць куды.

Аўтар успамінаў былых партызан судзіць камандзіра "Савецкай Беларусі", выслухаўшы толькі адзін бок (трох ці чатырох) чалавек. Мы ж, супрацоўнікі музея, чулі пра Бабкова толькі добрыя словы ад іншых былых партызан, якія, упэўнена, не хвалі б сваіх прозвішчаў пад загалоўнымі літарамі. "Дрэнны" Бабкоў доўга помніў сваіх сяброў па сумеснай барацьбе з ворагам, прыязджаў да іх пасля вайны. "В последние годы, – заканчвае аўтар свае нататкі, – он будто "тронулся": плакал часто за столом, все просил, чтобы его отвезли в Окуниново..." Дык ніколі не плачце, людзі, не паказвайце нікому сваіх душэўных парываў, бо нехта можа сказаць, што вы "трануліся"! Такім арыгінальным словам вызначыў слёзы М.У. Бабкова, яго жаданне наведаць напрыканцы жыцця вёску Акунінава аўтар артыкула "Правду должны знать все".

**P.S.** Толькі падрыхтавала гэты артыкул, як убачыла ў нумары "ГС" ад 12-18 чэрвеня 1998 года водгук на артыкул "Правду должны знать все". Сведкай бою ў Сасноўцы выступае ўжо былы падлетак, а зараз пенсіянер Васіль Паляшчук. Выпадкова ён аказаўся за кіламетр ад месца бою. На гэтай адлегласці ён усё бачыў і нават падлічыў, колькі загінула партызанаў, немцаў і паліцыянтаў. Мусіць падлетак, таксама выпадкова, захапіў з сабою і моцны бінокль... Ну што тут скажаш? Застаецца толькі кінуць покліч: "Дзе вы, былыя немаўляты? Займайце чаргу, каб сведчыць аб тым, што вы бачылі ў вайну!".

**Ірына ШПЫРКОВА,**
**дырэктар Слонімскага краязнаўчага музея**

І ТАКОЕ БЫВАЕ

# УСЯ СПРАВА Ў РАДЫЁ

Нядаўна ў гарадскім судзе слухалася грамадзянская справа жыхароў з вуліцы Гагарына. Уладзімір К. звярнуўся ў суд, каб спагнаць грошы з суседкі Надзеі Г. за карыстанне водаправодам.

Высветлілася, што ў 1990 годзе Уладзіміру К., як ветэрану вайны, па ягонай заяве ў хату была падведзена вада. Праз некаторы час Надзея Г. звярнулася да суседа з просьбай дазволіць ёй правесці ад ягонай трубы водаправод да сваёй хаты. Даведаўшыся, што жанчына ўзгадніла гэтае пытанне з водаканалам і ўзяла на сябе ўсе выдаткі па правядзенню мантажных работ, Уладзімір К. даў дазвол, але папярэдзіў, каб яна сплаціла яму выдаткі (адзін мільён рублёў), якія ён панёс пры пракладцы водаправода. Суседка пагадзілася і хуценька заплаціла грошы. Задаволены Уладзімір напісаў распіску за атрыманыя грошы.

Праз тыдзень-другі на падворку Надзеі Г. ужо працавала брыгада водаканала, а яшчэ праз некалькі дзён у хаце з'явілася вада. Не паспела жанчына нарадавацца новай зручнасцю, як паштальён прынесла ёй павестку ў суд.

На судзе Уладзімір К. спрабаваў даказаць, што панёс больш значныя страты пры пракладцы водаправода, чым заплаціла суседка. Суддзя спытала Уладзіміра К. чаму, менавіта зараз, ён вырашыў звярнуцца ў суд, а не раней. Адказ, які прагучаў з вуснаў сталага чалавека, развесяліў членаў суда і прысутных у зале:

– Слухаў неяк перадачу па радыё, дзе было адзначана, што дзяржава на будаўніцтве водаправода нясе вялікія выдаткі. У прыватнасці, гаварылася, што пракладка аднаго пагоннага метра трубы каштуе ажно 350 тысяч рублёў. Вось я вырашыў, што мала ўзяў з суседкі за ваду. Таму няхай яна мне сплоціць хоць за палову ўсёй даўжыні той трубы, што пракладзена да маёй хаты, – заявіў Уладзімір К.

У той жа час ён не змог прадставіць суду дакументы, якія сведчылі пра суму панесеных ім выдаткаў. Яснасць у гэтую справу ўнесла майстар водаканала, пад кіраўніцтвам якой восем гадоў назад праводзілі ваду ветэрану.

Яна сказала, што ў 1990 годзе ваенкам звярнуўся з просьбай да кіраўніцтва водаправоднай гаспадаркі, каб у парадку выключэння Уладзіміру К., як ветэрану вайны, быў пракладзены водаправод.

Водаканал пайшоў насустрач і праз кароткі час бясплатна выканаў усе работы. Яна таксама заявіла суду, што Уладзімір К. заплаціў толькі 25 рублёў за падрыхтоўку праекта.

У выніку, суд не задаволіў іск Уладзіміра К. , і ветэран са схіленай галавой пакінуў залу суда.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ГОРАД *нашы людзі*

# ЦЫРУЛЬНІЦА НІНА ДУБРОЎСКАЯ



Ніна Дуброўская, якая працуе цырульніцай у гасцініцы "Шчара", мае больш як сто сваіх пастаянных кліентаў. Стрыгчыся яны прыходзяць менавіта да яе. Сярод іх такія вядомыя ў горадзе людзі, як начальнік райсельгасупраўлення Іван Кахноўскі, пракурор Анатоль Яўлаш, начальнік аддзела міліцыі Мечыслаў Батура і многія іншыя кіраўнікі Слоніма. Хаця Ніна Іванаўна адзначае, што для яе не мае значэння, якую пасаду займае той ці іншы кліент.

– Я аднолькава добра стараюся абслугоўваць усіх сваіх наведвальнікаў, – гаворыць Ніна Дуброўская.

Нядаўна споўнілася 35 гадоў, як яна працуе цырульнікам. За гэты час, па самых сціплых падліках, майстар Дуброўская падстрыгла больш як 15 тысяч чалавек. Як рэліквію яна захоўвае свой асабісты дзённік, куды штомесяц запісвае колькасць людзей, якіх пастрыгла і суму выручкі. Гартаючы яго, як на далоні бачыш працоўны шлях жанчыны.

16 траўня 1964 года пасля заканчэння СШ №1 яна атрымала накіраванне Слонімскага быткамбіната на вучобу ў Мінскае ПТВ, дзе атрымала спецыяльнасць цырульніцы.

А ўжо праз год прыехала на практыку ў Слонім. Ішоў час, расло і майстэрства Ніны Іванаўны. Сумленныя адносіны да працы не заставаліся без увагі адміністрацыі быткамбіната. Неаднаразова яе ўзнагароджвалі ганаровымі граматамі і грашовымі прэміямі. Апошнія дзесяць гадоў Ніна Дуброўская працуе ў цырульні гасцініцы "Шчара", якая зараз уваходзіць у склад вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі горада.

Па словах дырэктара гэтага прадпрыемства Канстанціна Зубко, майстар Ніна Дуброўская – сумленны чалавек, яе працай задаволены наведвальнікі цырульні, якія заўсёды выказваюць у адрас жанчыны толькі словы падзякі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ФОТАРЭПАРТАЖ *Мікалая Супруна*

# НАШ СУЧАСНІК







ІНФАРМБЮРО



# КОЛЬКІ КАШТУЕ ЗВАРОТ У СУД?

Многія слонімцы па розных прычынах хацелі б звярнуцца ў суд, але ж не рашыліся, бо лічылі, што для гэтага неабходны значныя грашовыя затраты.

Колькі ж на самой справе трэба ісцу заплаціць, калі звяртаешся ў суд? Пра гэта карэспандэнт "ГС" папрасіў расказаць суддзю суда Слоніма і Слонімскага раёна Тамару Хамінец.

– Пры звароце ў суд грамадзяне альбо арганізацыі плоцяць грошы, якія называюцца судовымі расходамі: гэта судовая пошліна і судовыя выдаткі. Паколькі выдаткі звязаны непасрэдна з разглядам справы, варта спыніцца на дзяржаўнай пошліне, якая плоціцца пры звароце ў суд. Яе плоціць той, хто звяртаецца ў суд, каб абараніць свае правы. На першы погляд здаецца, што гэта несправядліва – чалавека і так пакрыўдзілі, а з яго яшчэ і грошы бяруць. Аднак практыка паказвае, што толькі такім чынам удаецца абмяжоўваць колькасць неабгрунтаваных ісказ. Згадзіцеся, што мала каму захочацца траціць грошы, ведаючы аб незаконнасці прад'яўленых патрабаванняў.

Калі суд задаволіў іск, то дзяржпошліну спагоняць з прайграўшага боку і вернуць ісцу. Іскавыя заявы прымаюцца толькі з квітком аб уплаце пошліны. А калі, часам, у ісца няма грошай для аплаты пошліны? Заканадаўства ўлічвае гэта, каб забяспечыць канстытуцыйнае права на судовую абарону, прадугледжвае, што ад уплаты пошліны вызваляюцца ісцы:

– паісках аб спагнанні аліментаў,

– па ісках аб вымяшчэнні шкоды, учыненай калецтвам ці іншым пашкоджаннем здароўя, а таксама стратай кармільца,

– па скаргах на пастановы па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях,

– па ісках, заснаваных па законе "Аб абароне правоў спажыўцоў",

– па ісках рэабілітаваных грамадзян і членаў іх сем'яў аб узнаўленні ў правах і вяртання страт,

– па ісках органаў пракуратуры, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, грамадзян, якія звяртаюцца ў суд з іскамі аб абароне правоў і інтарэсаў іншых юрыдычных і фізічных асоб.

Акрамя таго, суддзя мае права сам вызваліць ісца ад уплаты дзяржпошліны, ці зменшыць яе памер, зыходзячы з матэрыяльнага стану ісца. Для гэтага неабходна звярнуцца да суддзі з заявай, у якой патрэбна растлумачыць прычыну, чаму вы не можаце заплаціць пошліну. Да заявы звычайна прыкладваюцца:

даведка аб заработнай плаце (пенсіі, стыпендыі),

даведка аб складзе сям'і і іншыя доказы вашай "беднасці".

Аб вызваленні ад уплаты ці яе змяншэнні выносіцца вызначэнне суда. Калі суд вам адмовіў, то можна абскардзіць гэта ў вышэйстаячы суд, ці звярнуцца ў гарвыканкам, які, вывучыўшы ваша матэрыяльнае становішча, прыме адпаведнае рашэнне.

Памер пошліны залежыць ад цаны іску. Цана іску – гэта агульная сума патрабаванняў, з якімі вы звяртаецеся ў суд. Прычым іскавыя патрабаванні бываюць маёмасныя і немаёмасныя. Маёмасныя – гэта тыя патрабаванні, якія можна ацаніць у грошах (іск аб спагнанні доўгу, аб прызнанні права на якуюнебудзь маёмасць, аб раздзеле маёмасці і г.д.). Немаёмасныя – патрабаванні, што не падлягаюць грашовай ацэнцы (аб скасаванні шлюбу, устанаўленні бацькоўства, абароне гонару, годнасці і г.д.).

Згодна з заканадаўствам, памер дзяржаўнай пошліны па матэрыяльных іскавых патрабаваннях складае 10% ад сумы іску, а па немаёсных іскавых патрабаваннях – ад адной да двух мінімальных заработных плат, пры падачы заявы аб скасаванні шлюбу ўпершыню – дзве мінімальныя зарплаты, пры паўторным звароце – тры.

Законам прадугледжаны выпадкі, калі ўжо заплачаная дзяржпошліна падлягае вяртанню. Напрыклад, суд адмовіў у прыёме іскавай заявы, альбо ісцец сам адмовіўся ад іскавых патрабаванняў да назначанага судом тэрміну разгляду справы, ці ісцец унёс пошліну ў большым памеры, чым фактычная цана іску. Як вярнуць пошліну?

Для гэтага трэба звярнуцца ў суд з заявай, у якой указваюцца падставы вяртання пошліны. Падобную заяву можна падаць на працягу аднаго года з моманту залічэння пошліны ў мясцовы бюджэт. Суддзя выносіць вызначэнне, на аснове якога і квітанцыі аб уплаце дзяржпошліны гарфінаддзел павінен вярнуць грошы.

**Запісаў Валянцін ЧУРЫЛА**

НАША ІНТЭРВ'Ю

# СЛУЖБА ПАЧЫНАЕЦЦА З ВАЕНКАМАТА

Прайшоў чарговы прызыў у армію. Колькі юнакоў са Слонімшчыны пайшлі зараз служыць у войска? Пра гэта і іншае расказвае начальнік аддзялення прызыву маёр Ігар Крыш.

– Ва Узброеныя сілы Беларусі прызваны 217 чалавек. Акрамя таго, на даўкамплектаванне войскаў у другую чаргу будуць накіраваны і тыя, хто закончыў сёлета вучобу на падрыхтоўчых аддзяленнях вышэйшых навучальных устаноў, а таксама здаў уступныя экзамены ў навучальныя ўстановы, але не паступіў. Сёлета мы 207-мі чалавекам прадставілі адтэрміноўку ад прызыву ў сувязі з падрыхтоўкай і паступленнем на вучобу ў навучальныя ўстановы, і тым, якія заканчваюць вучобу.

20 чалавек не пайшлі служыць у армію па стану здароўя і 19 – па сямейнаму становішчу. Акрамя таго, больш як 50 прызыўнікоў былі асуджаны і не трапілі ў войскі да спецыяльнага распараджэння.

***– Ці ёсць якія-небудзь ільготы для некаторых асоб, што прызваны ў войска?***

– Як і раней, тыя прызыўнікі, што пацярпелі ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, альбо пацярпелі іх бацькі, накіроўваюцца ў вайсковыя часці, што не знаходзяцца на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях, а іх служба не звязана з крыніцамі іанізуемых вытокаў.

Сямейных прызыўнікоў, якія не маюць права на адтэрміноўку ад прызыву ва Узброеныя Сілы, па магчымасці накіроўваем у часці, што размешчаны па месцу жыхарства сямей, альбо на невялікай адлегласці ад месца жыхарства.

***– Існуюць сёлета якія-небудзь асаблівасці прызыву?***

– Так, калі раней ваенкаматы накіроўвалі юнакоў у вучэбныя часці па падрыхтоўцы малодшых камандзіраў і спецыялістаў, то зараз гэта права непасрэдна прадстаўлена вайсковым часцям. Перавага аддаецца ваеннаслужачым, якія выказалі жаданне пасля заканчэння вучобы служыць па кантракту. Пасля заканчэння "вучэбак" спецыялісты вяртаюцца ў свае вайсковыя часці. Таму там зацікаўлены ў адборы кандыдатаў.

Яшчэ адно новаўвядзенне. Раней усіх маладых салдат забіралі ў каранцін, дзе яны праходзілі курс маладога байца. Цяпер курс маладога байца навабранцы праходзяць непасрэдна ў тых падраздзяленнях, у якіх будуць служыць на працягу ўсяго тэрміну...

***– А ці былі выпадкі ўхілення ад службы ў армію?***

– Такіх выпадкаў за апошнія гады я не памятаю. Па выніках сёлетняга прызыву ў армію наш ваенкамат заняў першае месца ў вобласці. Летась мы былі другімі.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**

ЗАБЫТАЕ ІМЯ

# ЁН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСЬ

У першыя пасляваенныя гады на Слонімшчыне існавала нелегальная патрыятычная маладзёжная арганізацыя "Чайка". Летам 1947 года амаль усе яе сябры былі арыштаваны савецкай дзяржбяспекай і, пасля катаванняў, асуджаны на розныя тэрміны зняволення. Пра гэта ў апошнія пяць-шэсць гадоў ужо пісаў рэспубліканскі друк. Інфармацыя пра "Чайку" з'явілася ў школьным падручніку па гісторыі Беларусі. Там згадваліся і прозвішчы патрыётаў, а сярод іншых – Уладзіміра Салаўя. Усе лічылі, што яго даўно няма ўжывых. Толькі нядаўна высветлілася, што на пачатку 90-х гадоў, калі з'явіліся першыя публікацыі пра "Чайку", Салавей яшчэ жыў. Больш 40-ка гадоў ён прасядзеў у "псіхушцы"...



*Уладзімір Салавей (у цэнтры) і Васіль Супрун (справа). Слонім, 1943 г.*

Уладзімір Салавей нарадзіўся ў 1925 г. у вёсцы Гуменікі Слонімскага раёна ў сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў Сурынцы, а пры "першых саветах" – у Слоніме, у сённяшняй пятай сярэдняй школе. Быў ён здольны да навукі, вельмі начытаны, заахвочваў да атрымання адукацыі сваіх братоў.

Падчас нямецкай акупацыі ў Слоніме была адкрыта семінарыя, якая рыхтавала настаўнікаў для беларускіх школ. Вучыўся ў семінарыі і Уладзімір Салавей. Выкладчыкамі былі беларускія патрыёты, якія нават ва ўмовах акупацыі і нямецкай цэнзуры прывівалі навучэнцам любоў да Бацькаўшчыны, да роднай мовы.

Летам 1944-га года Салавей працаваў на аднаўленні чыгункі ў Альбярціне. Пасля ён паступіў у настаўніцкі інстытут у Баранавічах. Салавей часта наведваў Слонімшчыну, дзе пачаў арганізоўвацца падпольны антысталінскі рух моладзі, у якім удзельнічала шмат выпускнікоў настаўніцкай семінарыі. Моладзь хацела пратэставаць супраць здзекаў новых уладаў над беларускай мовай, культурай, супраць гвалту над сялянамі, якіх абкладалі вялікімі падаткамі і заганялі ў калгасы, супраць, зноў жа, гвалтоўных высылак моладзі на працу ў Расію (былі выпадкі, калі "істрабкі" і міліцыя акружалі вёску і праводзілі "зачыстку", хапаючы маладых людзей).

Вясной 1946 года арганізавалася "Чайка". Падобныя падпольныя групы з'явіліся ў той час па ўсёй Заходняй Беларусі. Нават школьная моладзь уключалася ў барацьбу супраць сталінізма. У слонімскую арганізацыю ўвайшлі пераважна маладыя настаўнікі – Васіль Супрун (кіраўнік), Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Аляксандр Гардзейка, Ніна Карач, Леакадзія Кавальчук і Уладзімір Салавей. Салавей арганізаваў аб'яднанне "Чайкі" з баранавіцкай падпольнай групай моладзі. Ён увайшоў у створаны летам 1946 года "Цэнтр беларускага вызваленчага руху", які ўзначаліў Васіль Супрун. Фактычна падпольшчыкі нічога не паспелі зрабіць. Арганізацыя толькі афармлялася, а ўжо летам 1947-га дзяржбяспека правяла арышты яе ўдзельнікаў...

Салавей якраз скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Баранавіцкага настаўніцкага інстытута, што давала яму няпоўную вышэйшую адукацыю. Таму, будучы накіраваным на працу ў Рахавіцкую сямігадовую школу, ён паступіў завочна ў Гродзенскі педінстытут. Але тут пачаліся арышты, і ён стаў хавацца. На нелегальным становішчы Салавей быў некалькі гадоў. Увесь гэты час яго, як апошняга з кіраўніцтва падполля, шукала МГБ. Дзесьці ў 1951-52 г.г. Уладзіміра схапілі. Відаць, нехта з "дабразычлійцаў" падказаў, дзе ён хаваецца... І сёння сваякі Салаўя не ведаюць, за што яго арыштавалі, бо нічога не чулі пра "Чайку".

Праз нейкі час пасля арышту бацьку Салаўя выклікалі аж у Казань. Адтуль ён вярнуўся з дрэннай навінай – Валодзю так катавалі ў турме, што ён звар'яцеў. Лячылі яго ў мясцовай бальніцы... Салавей ужо быў непатрэбны сталінскім апрычнікам – яго перавялі ў Магілёўскую бальніцу, а адтуль – у "псіхушку" пад Ружаны. Дыягназ не даваў надзеі на выздараўленне...

У сярэдзіне 50-ых гадоў сваякам дазволілі забраць Уладзіміра дахаты. Уладзіміра Салаўя завезлі ў клініку пад Гродна, дзе ён прабыў сорак гадоў...

У 1996 годзе яго перавялі ў "псіхушку" пад Казлоўшчыну. Нават сваякоў не папярэдзілі пра гэта. Неўзабаве Валодзя там загінуў. Нібыта зімою ён выйшаў за тэрыторыю, заблукаў у лесе і замёрз. Яго шукалі, але знайшлі толькі ў траўні, калі сышоў снег...

Уладзіміра Салаўя пахавалі ў Жыровічах. Там знайшла супакой яго ная знявечаная душа... За што змарнавалі яму жыццё каты? За тое, што бязмежна любіў сваю Бацькаўшчыну – Беларусь? За тое, што хацеў, каб яна была вольнай і незалежнай?

**Сяргей ЁРШ**



ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

## Мінскі беларускі тэатр у Слоніме

13 жніўня распачаліся ў Слоніме канцэрты групы Мінскага Беларускага тэатру пры ўдзеле салістаў Беларускае оперы, эстрады і балету.

Беларускія народныя песні былі выкананы мастакамі спеву Лыскаўцом, Чарыўным, Вастоканым, Некрасавым і іншымі.

Арыі з беларускіх і класічных заходнееўрапейскіх операў выканалі салісты оперы. Пасля 5 канцэртаў група паехала ў далейшае турнэ па Беларусі ў напрамку да Баранавіч.

**"Беларускі Голас" (Вільня) №34, 27.08.1943.**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

†

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Аноніч** Міхаіл Самуілавіч | 1903 г.н. |
| **Герман** Міхаіл Мікалаевіч | 1936 г.н. |
| **Куляшэвіч** Пётр Іванавіч | 1925 г.н. |
| **Камарова** Марыя Іванаўна | 1919 г.н. |
| **Марчык** Вольга Рыгораўна | 1923 г.н. |
| **Абрамовіч** Марыя Захараўна | 1909 г.н. |
| **Карасёва** Аляксандра Міхайлаўна | 1904 г.н. |
| **Шундрык** Валянціна Васільеўна | 1927 г.н. |
| **Каралевіч** Генадзь Іпалітавіч | 1971 г.н. |
| **Хомчык** Аркадзь Пятровіч | 1924 г.н. |

†

Выражаем благодарность АО "Свитанок", коллективу психоневрологического диспансера, соседям, всем родным и близким, принявшим участие в похоронах нашего любимого мужа, отца и дедушки **Германа** Михаила Николаевича.

*Семьи Герман и Герасимчик*

†

Выражаю глубокую благодарность начальнику ДЭУ-191 Амельянчику Б.И. и всем работникам, друзьям, близким, соседям и родственникам, принявшим участие в похоронах мужа, сына и брата Геннадия **Королевича**.

*Жена, мать, брат*

ФУТБОЛ

высшая лига

# КОГДА НЕ ЗАБИВАЕШЬ ТЫ, ЗАБИВАЮТ ТЕБЕ...

**Коммунальник (Слоним) — Торпедо-Кадино (Могилев) — 0:2**

**Слоним. 25 июля. Стадион "Юность". 3500 зрителей. Судья А. Ремин (нк, Минск)**
**Коммунальник: Киркиж, Капельян, Ал.Адамицкий, А.Дегиль, Воронин, Киреня (Панковец, 85), Диваков, Козловский, Баль (к), Савонь (Савицкий, 77), Малый (Татарашвили, 77).**
**Голы: Скоробогатько (68, 80)**
**Предупреждения: Че, Войтович, Лепехо, Темушкин, Савчук (все — "Торпедо-Кадино").**
**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — А.Дегиль, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — Ал.Адамицкий.**

С нетерпением ждали болельщики старта второго круга чемпионата Беларуси по футболу с участием обновленного состава "Коммунальника". Хотелось верить, что он будет успешным, но...

За весь первый тайм наша защита не позволила гостям создать ни одного опасного момента у ворот "Коммунальника". А слонимчане "расстреливали" ворота соперников на протяжении всей первой половины игры. Опасно били Малый, Савонь, Диваков, Капельян, но они промахивались или хорошо играл вратарь гостей. Могилевчане не успевали за нашими футболистами и "фолили". Несколько раз сбивали здорово игравшего Киреню. Только в первом тайме гости получили 4 предупреждения. Но забить "Коммунальник" не смог...

А во втором тайме "Торпедо-Кадино" организовало у ворот слонимчан всего три момента. Два из них закончились голами в наши ворота, которые четко забил опытный Скоробогатько. "Коммунальник" пытался отыграться, атаковал до последней минуты, но фортуна отвернулась от слонимчан. Сыграло старое правило: если не забиваешь ты, забивают тебе...

– Сегодня мы не забили и это самое страшное. Ведь игра забывается, а остается результат, но это постараемся пережить. Обидно проигрывать, когда переигрываешь соперника по многим параметрам, – отметил после матча главный тренер "Коммунальника" Яков Шапиро.

Он также сказал, что к следующему матчу больших перемен в составе команды не будет, так как, чтобы придти к игре, состав нужно стабилизировать.



## ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА

### ПОСЛЕ 16-го ТУРА

| | | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 15 | 12 | 1 | 2 | 33-6 | 37 |
| 2. | Торпедо (Минск) | 15 | 8 | 5 | 2 | 28-9 | 29 |
| 3. | Гомель | 15 | 8 | 5 | 2 | 21-12 | 29 |
| 4. | Белшина (Бобруйск) | 15 | 8 | 4 | 3 | 28-12 | 28 |
| 5. | БАТЭ (Борисов) | 15 | 8 | 2 | 5 | 30-19 | 26 |
| 6. | Славия (Мозырь) | 15 | 7 | 5 | 3 | 23-18 | 26 |
| 7. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 15 | 7 | 4 | 4 | 20-16 | 25 |
| 8. | Локомотив-96 (Витебск) | 15 | 6 | 4 | 5 | 16-13 | 22 |
| 9. | Динамо (Минск) | 14 | 6 | 3 | 5 | 19-13 | 21 |
| 10. | Неман (Гродно) | 15 | 5 | 5 | 5 | 13-19 | 20 |
| 11. | Динамо (Брест) | 15 | 5 | 1 | 9 | 15-23 | 16 |
| 12. | Шахтер (Солигорск) | 15 | 4 | 4 | 7 | 14-28 | 16 |
| 13. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 15 | 2 | 2 | 11 | 12-31 | 8 |
| 14. | Молодечно | 15 | 1 | 1 | 13 | 10-33 | 4 |
| 15. | Коммунальник (Слоним) | 15 | 0 | 4 | 11 | 5-35 | 4 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

***ПРИМЕЧАНИЕ.*** *По решению исполкома Белорусской федерации футбола команда «Динамо-93» снята с чемпионата, а результаты матчей с ее участием аннулированны.*

### РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ ТУРА:

| | |
|---|---|
| **Белшина — Славия** | **— 4:4** |
| **Неман — Гомель** | **— 1:1** |
| **Нафтан-Девон — Торпедо** | **— 1:5** |
| **БАТЭ — Молодечно** | **— 3:0** |
| **Днепр-Трансмаш — Динамо Бр.** | **— 2:0** |
| **Локомотив-96 — Шахтер** | **— 1:2** |
| **Динамо Мн. — Динамо-93** | *(неявка Динамо-93)* |





# "ЗАГРЕМИТ" ЛИ ФУТБОЛЬНЫЙ СЛОНИМ?

**24 июля в малом зале Дома культуры прошла встреча игроков и руководства "Коммунальника" с болельщиками.**

Вечер открыл главный тренер Яков Шапиро, который представил новичков команды, рассказал о планах и перспективах "Коммунальника". Он отметил, что сейчас идет процесс перестройки команды. Наряду с задачей выживания в высшей лиге, строятся планы на будущее. Вот поэтому в "Коммунальник" пригласили много молодых и перспективных футболистов. Сейчас в команде создана приличная конкуренция, практически, на каждую позицию.

– Играть с нуля намного легче, чем с последнего места. У нас пока нет побед, но они обязательно будут. Хорошее дело быстро не делается... Однако мы сделаем все возможное, чтобы к 2001 году наша команда "гремела". Для этого есть все предпосылки, – заявил Шапиро.

После такого вступления аудитория буквально "засыпала" вопросами руководство команды. Отвечая на них, Яков Шапиро, в частности, выдал много "тайн". Например, что в следующем году у "Коммунальника" появится фарм-клуб, возможно, будет и своя детско-юношеская школа. Решается вопрос по созданию своей базы. В следующем году на стадионе "Юность" появится еще несколько козырьков над трибунами. Правда, Яков Михайлович отметил, что лучше построить новый стадион на 5 тысяч посадочных мест, чем заниматься реконструкцией. – Ведь мы будем играть в Европе! – убежденно отметил Шапиро.

На встрече было много "острых" вопросов не только относительно "Коммунальника", но и футбола в Беларуси вообще. Тут все пришли к выводу, что все взаимосвязано: футбол, экономика страны, политическая ситуация... Болельщики интересовались судьбой бывших игроков "Коммунальника", которые сейчас пробуют себя в командах высшей и первой лиги. Спрашивали о том, появятся ли в команде легионеры из дальнего зарубежья. На это Шапиро пошутил, что "у нас уже есть один легионер – Татарашвили, а вести переговоры с Роналдо пока нет возможности"...

В завершение вечера болельщики пожелали нашей команде успехов во втором круге чемпионата Беларуси и высказали пожелание, чтобы подобные встречи стали регулярными.





**У капитана "Коммунальника" Алексея Баля родился второй сын. На встрече с болельщиками его поздравил с этим радостным событием директор футбольного клуба Анатолий Двороковский (на снимке). Редакция "Газеты Слонімскай" также поздравляет Алексея и желает ему счастья в семье и успехов на футбольном поле.**



# ПЕРВЫЙ МАСТЕР СПОРТА В "КОММУНАЛЬНИКЕ"



**Справка "ГС": Алексей ПАНКОВЕЦ родился в 1981 году в Минске. Футболом начал заниматься в минском "Торпедо" у тренеров Александра Гладкого, Петра Разинкевича. В 10-летнем возрасте перешел в клуб "Атака". С 14 лет играет в юношеской сборной Беларуси. В "Коммунальник" перешел из борисовского БАТЭ. Играет в полузащите и нападении.**

Как уже писала "ГС", недавно из Москвы вернулся Алексей Панковец, бронзовый призер 1-ых Всемирных олимпийских юношеских игр. Он самый молодой футболист-новобранец "Коммунальника", и стал первым мастером спорта в команде. Футбольные специалисты отмечают прекрасные перспективы Панковца, который хорошо зарекомендовал себя в играх за юношескую сборную Беларуси. Сегодня он отвечает на вопросы нашего корреспондента:

***– Алексей, тяжело ли досталась "бронза" в Москве?***

– Мы могли претендовать и на большее. В Москве наша сборная играла неплохо, могли выиграть и у Турции, и у Катара. Однако в последнем матче не хватило мастерства и везения, чтобы забить, в тоже время пропустили две контратаки. Да еще и судейство было отвратительным.

***– Ты забивал мячи?***

– Один, в ворота португальцев.

***– Как давно ты решился перейти в "Коммунальник"?***

– Как только получил предложение от Якова Михайловича Шапиро. В БАТЭ очень большая конкуренция – там собраны лучшие игроки со всей Беларуси. Тяжело было пробиться в основной состав, а играть хотелось. Тренер просил подождать, но ждать можно и год, и два...

***– Надеемся, что в Слониме таких проблем не будет и желаем тебе первых забитых мячей в составе "Коммунальника".***

**Страницу подготовил Сергей ЁРШ**
**Фото Николая СУПРУНА**

